


DISTRICTUS

# ПАВЕТ



ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ

№ 3 (28) САКАВІК 2004 г.

# 25 САКАВІКА - ДЗЕНЬ АБВЯШЧЭННЯ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ

Ларыса Геніюш

**КРЫЛАТЫЯ**

**Кожны сябра крылаты свой ведае шлях**
**Неабмежаны, сіні, паднебны,**
**Як й куды скіраваць крыльляў вольны размах,**
**Ім на гэта указ не патрэбны!**

**Быць сабою, няспыненым птахам ў жыцьці,**
**Ў летні дзень ці размоклую восень.**
**Не указанай вузкаю сьцежкаю йсьці,**
**А ляцець, куды думы заносяць!**

**Знаем сьвятасьць гнязда, сілай зьвераны лёт,**
**Непахісныя продкаў законы.**
**Прага ў нашай крыві да змагань, да высот**
**І напрамак да розных загонаў!**

*Нумар прысвечаны ўсім руплііўцам на ніве Беларускага Адраджэння*






# ВЕСТКІ

13 сакавіка ў Цэнтры дзіцячай творчасці прайшоў чарговы злёт юных краязнаўцаў, на якім былі падведзены вынікі работы за мінулы год па плану чарговага этапу турысцка-краязнаўчай экспедыцыі "Наш край". Трэба адзначыць, што узровень прадстаўленых прац стаў значна вышэй. Традыцыйна цікавыя і якасныя работы прадставілі краязнаўцы Дрысвяцкай СШ. Як і раней актыўна ўдзельнічалі вучні з 1-й і 2-й гарадскіх школ, Ахрэмаўскай, Слабодкаўскай, Друйскай СШ, Кансталінскай і Грытунскай БШ. Прыемна адзначыць працы вучняў Карасінскай БШ. Мінулы год быў для іх надзвычай плённым.

Усяго на выніковы злёт было прадстаўлена звыш 40 справаздач. Пераможцамі сталі: у намінацыі "Адраджэнне гістарычнай памяці" – I месца – вучні Грытунскай БШ за работу "Гісторыя вузкакалейнай чыгункі Друя-Дукштас" (кіраўнік А.Б.Кажанеўская), II месца – вучні



Дрысвяцкай СШ – "Этнічны склад в.Дрысвяты" (кір. Э.Л.Шавэла), III месца – вучні Ахрэмаўскай СШ – "Ахрэмаўцы ў 1939-1944 гадах" (кір. Цікнюс С.Н.); у намінацыі "Культурная спадчына" – I месца – вучні Карасінскай БШ – "Тапанімічны слоўнік сваёй мясцовасці" (кір. А.Т.Прахарэнка), II месца – вучні Слабодкаўскай СШ – "Гісторыя маёнтка Завер'е" (кір. В.І.Ходас), III месца – вучні Пеліканскай БШ – матэрыялы па вуснай паэтычнай творчасці (кір. Л.І.Бездзель); у намінацыі "Славутыя імёны" – I месца – вучні Дрысвяцкай СШ – "Народны настаўнік Беларусі М.У.Прэдкель", II месца – вучні Відзы-Лаўчынскай СШ – сустрэча з нашчадкамі апошняга уладальніка маёнтка Мінэйкі (кір. М.В.Сінкевіч); у намінацыі "Старонкі ваеннай гісторыі" – I месца – вучні Дрысвяцкай СШ, II месца – вучні Карасінскай БШ – за працы па тэме "Падзеі I сусветнай вайны ў сваёй мясцовасці", III месца – вучні Зарацкай БШ – за матэрыял па брацкай магіле ў в.Зарачча (кір. І.А.Плюскова); у намінацыі "Прыродная спадчына" – I месца – вучні Канстанлінскай БШ за выяўленне рэдкіх геалагічных аб'ектаў (кір. В.Е.Бунта), II месца – вучні Купчэльскай БШ – "Возера Даубле" (кір. Я.К.Кіжла).

Працы-пераможцы ў хуткім часе будуць прадстаўляць наш край на рэгіянальным злёце.



20 сакавіка чарговая гульня інтэлектуальнага клуба "Санет" ЦДТ была прысвечана краязнаўству. Тэмай была абрана гісторыя, культура і прыродныя асаблівасці Браслаўшчыны. Спаборнічаць сабраліся вучні сярэдніх і базавых школ раёна і з гімназіі. Перамога дасталася юным інтэлектуалам з СШ№1 і гімназіі. Трэба адзначыць вялікі інтарэс маладых людзей да нашага мінулага. Нягледзячы на складаныя пытанні школьнікі паспяхова з імі справіліся.



Пашпарт грамадзяніна БНР

*Старадаўняй*
*Літоўскай*
*Пагоні*
*не разьбіць,*
*не спыніць,*
*не стрымаць!!!*

*Максім Багдановіч*

*Рыгор Барадулін*

## БНР

БНР –
Бог, Народ, Радзіма.
БНР –
Быць Надзеі Ранішняй!
У змаганцаў перад вачыма
Беларусшчыны сэрца параненае.

Разгараецца на суравеях стагодзьдзяў
Бел-Чырвона-Белае полымя,
Кладкі палячы здрадлівай згодзе.
Вернасьць і непахіснасьць супольныя.

Рве свабода варожыя сховы,
Прэчыць крылы зграяў абскублыя.
Санцавеецца воблік вясновы
Беларускай Народнай Рэспублікі!

*Сакавік 2004 г.*




Браслаў. Абуджэнне вясны

**Адным з тых, хто пацярпеў за беларускую дзейнасць, быў наш зямляк Мар'ян Пецюкевіч (1904–1983) – этнограф, грамадскі дзеяч. Ён цярпеў пераслед з боку польскіх і савецкіх улад. У 1949 г. ён разам з сям'ёй быў сасланы ў Сібір, потым быў асуджаны за нацыяналізм і кінуты ў лагеры.**

**Друкуецца фрагмент кнігі М.Пецюкевіча "Кара за службу народу", у якой апісваецца ссылка ў Сібір.**

**Мар'ян Пецюкевіч перад высылкай жыў з сям'ёй пад Вільняй.**

# Мар'ян Пецюкевіч. Кара за службу народу

"...Ідучы ад хлява, калі сонейка ўжо зусім прыбліжалася да бульбянішча Хаткевіча, я заўважыў, як нейкія дзьве постаці перабягалі ад гумна на ўскрай саду. Пасьля ўжо бліжэй мяне вынырнуў з-за тоўстага ствала клёну яшчэ трэці чалавек, з-за другога дрэва – чацьвёрты. Цені іх у праменьнях заходзячага сонца былі так доўгія, як на роўным полі гоні. За хвіліну я заўважыў, як адна зь невядомых мне асоб ужо зусім блізка крочыла проста на мяне размахваючы поламі расшпіленага шыняля. З адлегласьці некалькіх крокаў ад мяне я пазнаў у гэтым незнаёмым майго знаёмага па валасных сходах капітана Гарынчука – начальніка НКВД на нашу воласьць. Прыбліжыўшыся да мяне, з выразнай разгубленасьцю тыцнуў руку на прывітаньне і засопшыся, запытаў: "Ну, что у тебя слышно? Как живёшь?" Гутарка зусім ня клеілася. "Ну, как у тебя обстоит дело с организацией колхоза?" Коратка адказаў я яму, што гэтай справай займаюся, гутару, пакуль што паадзіночна, зь сялянамі і думаю, што ў хуткім часе на сельсавет арганізуем пару калгасаў. Справа ідзе цяжка, але не безнадзейна. Але я пачынаю цяміць, што яго цікавіць не калгасная справа. Аднак ён стараецца да канца разыграць вырэжысэраваную камэдыю. Загадвае сабраць на сход усіх сялян з нашага сельсавету. Я адразу заявіў, што па захадзе сонца пакуль павядоміш, то і да раніцы не зьбярэш. Хто там ноччу пойдзе за 5-6 кілямэтраў да Лавінскага? Але загад начальства трэба выконваць, хаця б ён быў зусім недарэчны. І я выказаў гатоўнасьць садзіцца вярхом на свайго Каштанчыка і гойсаць па хутарах і вёсках. Бачачы маю рашучасьць выканаць загад, ён раптам яго адмяняе: "Давай сначала зайдём к тебе на квартиру". Калі мы заходзілі ў хату, я заўважыў тых, якія перабягалі раней ад гумна ў сад у шынялях. Яны ў гэты час занялі пасты вакол хаты. Ну, усё, справа выясьнілася, – падумаў я. Значыцца, прыбылі па мяне. У хаце капітан Гарынчук адчуваў сябе цалкам бясьпечна, бо ахоўвалі яго хлопцы.

Спачатку спытаў, дзе мая жонка, дзе дзеці. Я адказаў, што ўсе дома. Загадаў паклікаць жонку, але мне не дазволіў ісьці за ёй, а паслаў Івана Сурму. Калі ўся сям'я была ў камплекце, тады Гарынчук выцягнуў з-за пазухі паперу. Урачыста і сур'ёзна прачытаў тэкст аддрукаваны на машынцы, прыблізна такога зьместу: "Решением правительства Верховного Совета Литовской ССР гражданин М.Н.П., проживающий в Неменчинке переселяется со своим семейством в отдалённые места СССР. Имущество движимое и недвижимое подлежит конфискации в пользу государства. Подпісы..."

Прачытаўшы, запытаў: "Всё понятно?" І дадаў: "Даю вам один час времени собрать необходимый ручной багаж и быть готовыми к отьезду".

Пасьля гэтага ў мяне вырвалася падсьвядомае пытаньне: "Скажыце, за што мяне вывозяць?" Наступіў кароткі адказ: "Ты хотел строить Незалежную Белоруссию, вот за это тебя переселяют". У гэты момант мая жонка запратэставала: "Я ж – полька, а за што ж мяне высяляеце?" Зноў быў кароткі адказ: "Где муж, там и жена. Поедете, а там разберутся".

Мне не дазволілі крануцца зь месца. Жонка пры дапамозе суседак пакавала ў мяшкі і чамаданы, што траплялася пад руку; у першую чаргу старалася браць адзеньне і абутак, перад усім для дзяцей.

Сьпіс маёмасьці састаўляў сам Гарынчук пад маю дыктоўку. У гэты час суседзі, нягледзячы на ахоўнікаў-міліцыянераў, хто што мог хапалі з хаты, са сьвірна і пераносілі дамоў. А "істрэбкі", якія ахоўвалі ў хаце нас і Гарынчука, таксама шарылі ў шафе, кладоўцы, у буфэце і штолепшае ды партатыўнае стараліся паглыбей палажыць у кішэні сваіх шынялёў і сумак.

На другі дзень уся маёмасьць была вывезена і перададзена па назначэньні. Напрыклад, піяніна паехала ў саўгасны клюб у Вэркі, пчолы, кароўка, авечкі, сьвіньні і мой любімец аднавокі ў калгас Гератанішкі.

У апошні момант перад пагрузкай маёй сям'і ў расхлякатаны грузавічок Чырвонадворскага МТС Гарынчук загадаў сабірацца старой, недалужнай цешчы і швагерцы, якія ўжо ня мелі часу забраць і самага неабходнага асабістага багажу.

Добрыя суседзі пры пагрузцы нас у машыну падкінулі харчоў і, самае важнае для перасяленцаў – пілу і тапор, якія так прыдаліся на "новай гаспадарцы".

Сэрца камянела і сьціскалася ад болю і пачуцьця няспраўядлівасьці, калі мы пакідалі гняздо і ўсё здабытае цяжкай фізычнай працай і ад'яжджалі на поўнае гора, на цярпеньні фізычныя і маральныя, на паняверку. Гэтую бездань маральнага цярпеньня яшчэ вярэдзіла і распальвала раны душы назойлівае пытаньне: "За што?!"

Разьвітаньне з гэтым часовым месцам жыхарства, дзе я пражыў падчас нямецкай акупацыі і некалькі гадоў пры савецкай уладзе ў якасьці селяніна-земляроба, не было для мяне цяжкім. Не шкадаваўя нават таго скромнага дабра, якое мы нажылі з жонкай сваёй сумленнай працай у горадзе і на вёсцы. Гэта быў "пажар", які зьнішчае за адну-дзьве гадзіны ўсё тое, што пакаленьнямі нажываецца. Для мяне было найбольшым цярпеньнем, болем душы і сэрца разьвітацца зь сястрой, якая адпраўляла нас у невядомы і беспаваротны шлях. Яна павісла мне на шыі і ўтапілася ў палючых нутро гарачых сьлязах. Умомант бязладна апалі яе рукі і яна спаўзла мне пад ногі



**Мар'ян Пецюкевіч**

сампеўшая. Яшчэ больш цяжка было мне разьвітацца з маёй гаротнай мамай, якая знаходзілася на хутары ў швагра. Яна не магла зьявіцца на разьвітаньне, бо яе таксама змусілі б ехаць з намі на высылку. Яна, бедная, усю гэту ноч прастаяла на ганку і ўсёй сваёй істотай услухоўвалася ў той шквал, які даносіўся з нашай хаты. Яна траціла чацьвёртага сына ў гэтай ваеннай і паваеннай завірусе; сына, які хаця крыху зьменшваў ейнае гора, ейны сум па тых сынах, якія загінулі ад гітлераўскіх куляў.

Я кожны амаль вечар, пасьля працы бег хаця на гадзінку да мамы, каб зь ёй правесьці вечар у сардэчнай шчырай размове, поўнай бязьмернай любові. Я ў сваёй маме бачыў нешта большае чым сьвятасьць. Яна была бальзамам на мае духоўныя раны, на мае маральныя цярпеньні. Яна была для мяне неабходным для жыцьця сонцам, паветрам і вадой. Але калі праязджаючы насупраць хутара я ўглядаўся праз начную цемру ў туманныя абрысы хаты, дзе на ганку стаяла мая мама і чула гудзеньне правозячай нас машыны, я ня думаў пра сябе і сваю сям'ю, пра нашу няведамую будучыню. Я думаў аб маме і ведаў, што яна тоне ў сьлязах, а я ёй ніяк не магу дапамагчы. Не магу яе суцешыць, не магу яе ўспакоіць. Хутка за ўзгоркамі схавалася Хмізютка, дзе застаўся мой найдаражэйшы скарб, мой шчыры прыяцель – мая мама. Чым далей мы ад'яжджалі, тым больш я прыбліжаўся ў Хмізютку і там душой і сэрцам застаўся да канца жыцьця маёй мамы..."

# ПОЛЫМЕМ ЖОРСТКАСЦІ АБПАЛЕНЫ ЛЁС

**Валерый Каралёў**

*Упершыню я сустрэўся з Аляксандрам Іванавічам Юршэвічам у сярэдзіне 80-х гадоў, калі пачынаў сваю працоўную дзейнасць у МПМК-55, а ён – аўтарытэтны і паважаны прараб адпрацоўваў апошнія гады перад заслужаным адпачынкам. Але аб лёсе і шматлікіх старонках біяграфіі гэтага чалавека стала магчымым адкрыта гаварыць толькі з 1992 года – пасля рэабілітацыі.*

Жыве ва ўтульным дамку з мансардай пры самым беразе возера ў Мёрах цікавы чалавек нязвыклага лёсу. Гады жорсткіх выпрабаванняў і нястомнай працы паклалі свае адмеціны – маршчынкі на яго твар, працавітыя рукі, але не змаглі прытушыць яснасць і святло позірка, душэўную шчырасць і цеплыню, толькі дадалі развагі і жыццёвай мудрасці...

У далёкім 1928 годзе ў сям'і настаўніцы і былога вайскоўца ў вёсцы Забалацце, што непадалёк ад Язна, нарадзіўся сын Аляксандр. Бацькі – Іван Аляксандравіч і Юлія Дзмітрыеўна Юршэвічы – мелі невялікі надзел зямлі, вялі сялянскую гаспадарку. Але вялікай заможнасці ў сям'і не было. Няпростае дзяцінства і юнацтва выпала таму пакаленню. Амаль з маленства сур'ёзная дапамога ў цяжкай сялянскай працы бацькоў. Нязвыклая, хаця і падобная да сваёй роднай, мова выкладання ў школе. Але ўжо падчас вучобы ў паўшэхнай школе ў ПарадняХ яскрава праявіліся здольнасці і цяга да ведаў Аляксандра. Пасля паспяховага заканчэння школы паўшэхнай ён працягваў вучобу ў Дзісне, дзе ў той час бацька працаваў кіраўніком малочні.

Неўзабаве грымнуў верасень 1939 года – і хада жыцця зрабіла круты паварот. Шмат дзіўных, нязвыклых, а часамі і насцярожваючых падзей пачало адбывацца. Алесь працягваў вучобу ў Язне, бліжэй да роднай хаты. З аб'яднаннем Беларусі з'явіліся ў вёсках мястэчка газеты і часопісы, шмат кніг на беларускай мове. Спрыяла ўздыму нацыянальнага самаўсведамлення моладзі і тое, што новая ўлада даручыла кіраваць школай у Язне пераехаўшаму якраз з Вільні ў свае родныя мясціны Ігнату Мятле – малодшаму брату Пятра Мятлы, вядомага "пры Польшчы" дзеяча Грамады, пасла Сойма і паплечніка Тарашкевіча, Рак-Міхайлоўскага. Ігнат Мятла быў вялікім патрыётам Беларусі, высокакультурным і разнабакова адукаваным чалавекам, які меў выдатныя арганізатарскія здольнасці, – сапраўдным інтэлігентам. Амаль усе прадметы пачалі выкладацца на беларускай мове, адрадзіўся, акрыяў беларускі культурніцка-асветніцкі рух.



Алесь Юршэвіч паспяхова авалодваў рускай і ўжо літаратурнай беларускай мовамі, іншымі прадметамі. Стараннасць, любоў да працы, пытлівасць розуму дапамагалі атрымліваць найвышэйшыя адзнакі.

Не скончылася вучоба і падчас нямецка-фашысцкай акупацыі. Позняй восенню 1941 года аднавілася дзейнасць школы ў Язне, а дырэктарам яе зноў стаў Ігнат Мятла. Настаўнічалі ў ёй Вольга Дук, Ліда Сініца – таксама гарачыя прыхільніцы беларускага нацыянальнага адраджэння. Часам не хапала самага патрэбнага: сшыткаў, алоўкаў. Але мясцовая дзятва і падлеткі адкрывалі для сябе хараство роднай мовы, літаратуры, таямніцы і багацце айчыннай гісторыі, постаці яе слаўных дзеячаў. Граматыку вывучалі паводле Тарашкевіча, гісторыю паводле Ластоўкага, а геаграфію паводле Смоліча.

Але ўзіму 1943 – 1944 гадоў партызаны, узмацніўшы сваю дзейнасць, забаранілі дырэктару працягваць навучанне, а будынак школы ў Язне спалілі. Ігнат Мятла выехаў з нашых мясцін.

Тым не менш зерне годнасці, сумленнасці і вялікай любові да сваёй Радзімы ўжо было кінута ў благадатную глебу і пакрысе прарастала ў юначых сэрцах. Паспеўшы скончыць у Язненскай школе 7 класаў, Аляксандр Юршэвіч працягнуў вучобу ў Глыбоцкай прагімназіі, а пасля вызвалення Беларусі ад акупантаў паступіў у Глыбокім на настаўніцкія курсы. У хуткім часе, паспяхова дасдаўшы іспыты за 8 клас, паступіў у 9 клас Глыбоцкай сярэдняй школы № 1. Тут, у новаствораных савецкіх вучэльнях панаваў дух непрыкрытага русіфікатарства і жорсткай камуністычнай ідэалогіі. Усе прадметы выкладаліся на рускай мове. Аб сапраўдным глыбокім вывучэнні айчыннай гісторыі, мовы, літаратуры немагчыма было нават марыць. Замест любові да роднай Беларусі настаўнікамі апантана прывіваліся ідэі чужой палітычнай ідэі.

Але было і кола аднагоднаў-землякоў, якія адчувалі крывадушнасць гэткага стану рэчаў і непрымаючых яго. Кола, якое паступова пашыралася, і ператварылася ў кола сяброў-аднадумцаў. У гэтым коле, мабыць, самымі апантанымі і самымі надзейнымі былі: Васіль Мядзелец з Ружанполля, Антон Фурс з Язна, Леў Бялевіч, Пётр Спірковіч. Пакрысе далучаліся іншыя хлопцы і дзяўчаты. Паступова ў размовах выспела ідэя стварыць юнацкую патрыятычную арганізацыю, якая б супрацьстаяла русіфікатарству і камуністычнаму ідэалагічнаму ціску. Так узімку 1945-1946 гг. у асяроддзі навучэнцаў Глыбоцкіх вучэльняў стварыўся Саюз Беларускіх Патрыётаў. Алесь Юршэвіч склаў адмысловы тэкст прысягі наступнага зместу: "Я (прозвішча, імя), уступаючы ў Саюз Беларускіх Патрыётаў, прысягаю перад Бацькаўшчынай і беларускім народам, што заўсёды буду верны ідэалам свабоды і незалежнасці Беларусі. Калі ж па слабасці сваёй або па злому намеру я парушу гэту прысягу і выдам тайну сяброў, хай пакарае мяне Бог ганебнай смерцю здрадніка Радзімы".

Прыняцце прысягі першымі сябрамі арганізацыі было прымеркавана да 28-й гадавіны Беларускай Народнай Рэспублікі і адбылося 25 сакавіка 1946 года ў Глыбокім на кватэры яшчэ адной удзельніцы, навучэнкі Глыбоцкай СШ Ліды Несцяровіч. Прыняцце прысягі адбывалася ва ўрачыстай абстаноўцы перад спецыяльна вытканай юнакамі выявай старадаўняга герба "Пагоня" і бел-чырвона-белым сцягам.

За ўзор для дзеянняў па прапанове Алеся Юршэвіча ўзялі дзейнасць філаматаў-філарэтаў. Алесем жа былі перакладзеныя іх Статут і праграма і дапасаваныя да патрэб часу. Новастворанная арганізацыя ставіла сабе на мэце культурна-асветніцкую дзейнасць. Юнакі і дзяўчаты марылі бачыць сваю Радзіму вольнай, дэмакратычнай, заможнай і дзеля гэтага прагнулі пашыраць і ўмацоўваць веды аб яе сапраўднай гісторыі, імкнуцца пашырэння ўжывання мовы, а перш за ўсё – выхоўваць і загартоўваць сябе дзеля працы на карысць Радзімы. Вялікай іх перамогай было тое, што яны дабіліся ад адміні-

страцыі і настаўнікаў Глыбоцкай СШ выкладання ўсіх прадметаў на беларускай мове. З цягам часу была ўстаноўлена сувязь з падобнай арганізацыяй, што дзейнічала ў Паставах. Але наканавана было ім дзейнічаць нядоўга.

У хуткім часе восенню 1946 г. Алесь Юршэвіч ад'ехаў у Мінск, дзе працягнуў вучобу на філалагічным факультэце БДУ, а пад арганізацыяй навіс цень усюдыісных у савецкай Беларусі "органаў". Засланы з МГБ (министерство государственной безопасности) правакатар прапанаваў юнакам з Саюзу Беларускіх Патрыётаў назапашваць зброю, рыхтаваць тэрарыстычныя акцыі. Але ім хапіла развагі і розуму не пайсці на паваду ў яго. Тым не менш, пачаліся арышты, следства. Алеся Юршэвіча, хаця ён ужо некалькі месяцаў не падтрымліваў сувязяў з сябрамі, арыштавалі 19 сакавіка 1947 г. Пацягнуліся тры доўгія месяцы следства, камера ў знакамітай "амерыканцы", начныя допыты, псіхалагічны ціск, рукапрыкладства следчых. І гэта яшчэ нягоршае становішча, таму што, як пасля даведаўся Алесь, яго сяброў і таварышаў па арганізацыі з Глыбокага і Пастаў, змешчаных у падвал плябаніі пры пастаўскім апусцеўшым касцёле, адчуваючы сваю беспакаранасць на перыферыі, распаясаўшыяся хамаватыя паслядоўнікі "жалезнага Фелікса" падвяргалі жорсткім здзекам, катаванням, абразам.

16-20 чэрвеня 1947 года адбыўся ваенны трыбунал войскаў МУС Беларускай ваеннай акругі па "справе Мядзельца-Асіпенкі" – па прозвішчах кіраўнікоў патрыятычных арганізацый у Глыбокім і Паставах. Чатыром юнакам, у тым ліку і Алесю Юршэвічу, пагражала смяротнае пакаранне, якое было нявыканым толькі таму, што 20 мая 1947 г. ў СССР была адменена смяротная кара. Але прысуд і так быў звыш жорсткі – ім чатыром па 25 гадоў зняволення і яшчэ 5 гадоў высылкі. Іншым – па 15, 10, 5 гадоў зняволення. У параўнанні нават з увогуле неліберальным царскім рэжымам і яго пакараннем філаматаў- філарэтаў "народная" савецкая ўлада паказала свой нечалавеча жорсткі, антыгуманны таталітарны твар (характар).

Пасля прысуду была доўгая дарога на ўсход, у ненасытную імперыю савецкіх лагераў, якая была створана і спраўна дзейнічала зусім не дзеля адбывання пакарання ці "перавыхавання", але толькі дзеля ўмацавання дыктатуры праз звышэксплуатацыю шматмільённай арміі савецкіх рабоў ды пазбаўлення іх здароўя, сілаў і павольнага знішчэння няўгодных уладзе людзей. Алесю Юршэвічу такім месцам быў вызначаны штрафны лагер у ПаўночКузбасЛагер у Кемераўскай вобласці. Мяркуемым апошнім заняткам у жыцці – лесапавал.

Асабліва цяжкім юнаку падаліся першыя гады тут з нязвыклым, цяжкім кліматам, высцягваючай апошнія жылы, знясільваючай працай за мізэрную лагерную "пайку". Алесь паступова губляў сілы, пакрысе ператварыўшыся ў "фіціля" – абцягнутага скурай паўжывога шкілета – кандыдата на месца ў адной з брацкіх лагерных магілаў... Настаў той момант, калі падчас пракладкі дарогі ў лесе адной чысцю зімой Алесь упаў і ўжо больш не ў стане быў падняцца. Нярэдкімі ў лагеры былі выпадкі, калі знясіленых вязняў канваіры проста застрэльвалі, спадзеючыся атрымаць водпуск. Іншыя вязні, адчуваючы хуткі пакутлівы канец ці не ўстане далей выносіць гэткае існаванне, самі кідаліся на агароджы з калючага дроту, канваіраў, пераходзілі забароненыя межы, каб паставіць кропку ў сваім жыцці.

Што тады ўратавала Алесю жыццё? Цвёрдасць характара, нязломная прага жыцця, вера ў Бога, нязгасная надзея ўсё ж такі калі-небудзь вырвацца з гэтага пекла? Што дапамагло не спляміць сваю чалавечую годнасць яго канваіру – спачуванне, нявытраўленая дарэшты сістэмай чалавечнасць ці праснуўшаяся зямляцкая салідарнасць, – таму што ён, праўдападобна, быў патомкам перасяленцаў часоў Сталыпіна з Беларусі ў Сібір? Толькі той канваір шапнуў нават неварушачамуся на снезе паў-трупу: "Шавяліся! Толькі не замерзні! А я у лагер, за дапамогай". І бег у той лагер некалькі кіламетраў. У беспрытомным стане Алеся даставілі ў лагерны медпункт. Трызнячы і імкнучыся сагрэцца, ледзь ачуняўшы, Алесь кінуўся ніцма на печку-буржуйку. Загарэўшыся на ім шынэль здолелі патушыць. Былі абмарожаны пальцы рук, вуха.

Шмат лагераў прыйшлося прайсці на сваім пакутніцкім шляху Алесю Юршэвічу. У першы – штрафны – з ім разам былі дастаўлены Мікалай Асіпенка і Валянцін Лагунёнак. Пасля лёс раскідаў сяброў па розных лагерах. Была нечаканая хвілінная сустрэча з Лідай Несцяровіч, якая таксама адбывала тэрмін. Увесь час, за выключэннем кароткага тэрміну знаходжання ў 1949-1950 гг. у спецлагеры, дзе практыкаваўся класці кладку і тынкаваць, ён адбываў тэрмін зняволення на лесапавале. Сённяшняму пакаленню цяжка нават уявіць сабе ўсе цяжкасці і пакуты, выпрабаванні, якія спаўна прыйшлося зведаць вязням савецкіх лагераў. Далёка не ўсім з іх пашчасціла вярнуцца адтуль.

Надышоў 1956 год – пачатак "хрушчоўскай адлігі". Пачалі выпускаць з лагераў палітычных вязняў. Рашэннем камісіі ВС СССР "по отбытию срока наказания с учётом зачёта рабочих дней" быў выпушчаны з лагера і Алесь Юршэвіч. Як і іншым, яму проста знізілі тэрмін заключэння да ўжо адбытага. Вярнуўся дадому. Але тут па-ранейшаму панавала ды кіравала ўсім наскрозь усё тая ж жорсткая, падазроная і фанабэрыстая камуністычная бюракратыя. Шмат хто з былых палітвязняў убачыўшы, што на Радзіме па-людску ўладкаваць жыццё проста не дадуць, вярнуліся ў Сібір, на Поўнач. Прыйшлося развітацца з марай аб вышэйшай адукацыі – Алесю забаранілі аднавіцца ў БДУ і растлумачылі, што можа нават не спрабаваць паступаць зноў у ВНУ. Па меры сваіх магчымасцей дапамагаў былы аднакласнік і сябар з дзіцячых гадоў, а зараз старшыня калгаса "Сцяг перамогі" Міхаіл Казельскі. Ён накіраваў у школу майстроў-дзесятнікаў будаўнікоў у Полацк, а ўжо з восені 1957 г. Алесь Юршэвіч кіраваў калгаснай будаўнічай брыгадай. У 1959 г. ён перайшоў на пасаду майстра ў Дзісенскі міжкалгасбуд, а з 1964 года пачаў працаваць майстрам у Мёрскім міжкалгасбудзе. З цягам часу ў здольнага і дапытлівага майстра дадасца практычнага вопыту. Ён займаецца прафесійнай самаадукацыяй. Бачачы стараннасць, адказнасць, здольнасці спецыяліста і арганізатара, яго пераводзяць на пасаду прараба. Шмат было за доўгія гады працы пабудавана аб'ектаў Аляксандрам Іванавічам – школы ў Празароках, Лужках, Курылавічах, Зябках, клуб у родным Язне, шмат жылля, гаспадарчых пабудоў, ферм у калгасах. Непасрэдна Аляксандрам Іванавічам была паспяхова ўкаранёна ў Мёрскім міжкалгасбудзе складаная ў тагачасных умовах паўрамная тэхналогія пабудовы жывёлагадоўчых аб'ектаў. Яго прозвішча было занесена ў Кнігу гонару аблкалгасбуда. За сумленную працу быў узнагароджаны пасздкай на ВДНГ у Маскву. Паспяховы прараб заслужана атрымліваў рэгулярна прэміі і Ганаровыя граматы. У 1970 г. быў прадстаўлены да ўзнагароджання медалём з нагоды 100-годдзя нараджэння Леніна, але яго не атрымаў магчыма, "падвяла анкета". Шчасліва склалася і асабістае жыццё Аляксандра Іванавіча. У 1962 годзе ўзяў шлюб з Марыяй Станіславаўнай Бялевіч. Яна стала Аляксандру Іванавічу надзейнай і вернай сяброўкай на ўсё жыццё. Разам выгадавалі і паставілі на ногі дачку і сына. Сёння дачка Алена – настаўніца гімназіі ў Полацку, а сын Віктар – урач у Мінску. Радасць для дзядулі і бабулі – двое ўнукаў.

У 1988 г. Аляксандр Іванавіч выйшаў на заслужаны адпачынак з ганаровым званнем "Ветэран працы". У 1992 г. нарэшце дачакаўся рэабілітацыі "за отсутствием состава преступления" і невялічкай кампенсацыі за 9 гадоў зняволення. І сёння дзейсны, працавіты, аптымістычны характар не дазваляе суцішыцца, супакоіцца. Любімыя прысядзібны садок, пчолы, агарод – патрабуюць увагі і стараннасці працавітых рук.

Не парывае Аляксандр Іванавіч сувязей са сваімі сябрамі, жыва цікавіцца сучасным станам рэчаў, гісторыяй роднага краю, шмат чытае. Толькі іншы раз успомніцца "ворагу народа", былому палітвязню і ветэрану працы тыя далёкія і незабыўныя часы маладосці, абпаленыя нялюдскай жорсткасцю. І паўстае пытанне – за што тагачаснай уладай былі асуджаны яны на гэткія пакуты, за што адбіралі ў іх будучыню? Няўжо за тое, што марылі бачыць родную зямлю, родную Беларусь незалежнай, квітнеючай краінай, народ – вольным, адукаваным і заможным, з юнацкай няўрымслівасцю жадалі працаваць на карысць сваёй Радзімы?!.

P.S. Аўтар шчыра дзякуе настаўніку Мёрскай СШ № 3 Лапкоўскаму Алегу Мікалаевічу за прадстаўленую папярэднюю інфармацыю, якая дапамагла ў напісанні артыкула.

## Гартаючы старыя газеты

### Шаўлянская Беларуская школа

Беларуская школа ў Шаўлянах Браслаўскага пав. заложа-на ў 1926 г. Навука распачата дня 1 сакавіка 1927 г. Канцэсыянэрам Бел. школы ў Шаўлянах ёсьць Б.І.Г. і К. Кіраўнічкай школы зьяўляецца Мар'я Булыга. У 1926 – 1927 вучэбным г. было ў школе 54 вучняў: I аддз. – 7, II – 22, III – 14 і IV – 11. На 1927 – 28 школьны год з пачатку школьнага году запісалася ў школу 100 дзяцей, з іх 95 каталікаў і 5 старавераў. Кожны дзень сяляне з далейшых вёсак прыходзяць у школу, каб запісаць іх дзяцей, але дзеля недахвату месца кіраўніца школы больш дзяцей ня можа прыняць.

Наагул навука ў школе йдзе з вялізарным поспехам. Дзеці вучацца з вялікай ахвотай. Сяляне, бацькі дзяцей у школьным веку, надта здаволены з роднай школы. На 1927 – 28 вучэбны год сяляне з суседніх вёсак ужо ня пусьцяць сваіх дзяцей у польскую школу, а толькі ў Беларускую ў Шаўляны.

Ня гледзячы на незаможнасьць сялян-бацькоў, усё-ж такі яны з апошняга дапамагаюць школе як грашмі, так і фізычнай працай. Пры школе істнуе бацькоўскі камітэт у асобах: Ігната Пабяржжыня, Станіслава Аўсюкевіча і Вінцэнтага Аўсюкевіча.

### Цяцерскі Гурток Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры

Гурток Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры ў в.Цяцеркі Браслаўскага пав., заложаны 14 жніўня 1926 г. Думку аб залажэньні гуртка Інстытуту ў в.Цяцерках падалі кс. В.Шутовіч і М.Пецюкевіч. Усе больш разьвітыя сяляне надта прыхільна адгукнуліся на гэта, прадбачачы ў гэтай культурна-асьветнай Інстытуцыі магутнага змагара за лепшую долю нашага загнанага народу.

У склад часовага ўраду гуртка, увайшлі: старшыня – гр. Дзяніс Мядзведзяў, скарбнік – гр. Альжбета Пецюкевічанка, сэкрэтар гр. Антон Пецюкевіч, кандыдатамі: гр. Гэнрык Пецюкевіч і Станіслаў Карсюкевіч. Гурток мае цяпер каля 30 сяброў. Гурток Інстытуту з першых дзён свайго існаваньня пачаў вельмі інтэнсыўна працаваць, ня гледзячы на розныя перашкоды з боку паліцыі.

Цяцерскі Гурток Інстытуту наладзіў цэлы рад беларускіх прадстаўленьняў у в.Барадзенічах; у вялікім доме парахвіяльным былі адыграны наступныя п'есы: "Мікітаў Лапаць", "Зьбянтэжаны Саўка", "Пан Міністар", "Сурдут і Сярмяга", "Гурток", "Суд", "Апошняе Спатканьне". Апрача гэтага гурток зладзіў спэктаклі-вечарыны ў сваёй вёсцы, толькі апошнім разам дык катэгарычна паставіла сабе за заданьне Ёдская паліцыя перашкаджаць у разьвіцьці Цяцерскаму Гуртку. Цяцерскі Гурток пашырае сьведамасьць беларускую на вёсцы, праз роднае друкаванае слова, стараўся і стараецца, каб закладваць беларускія школы, дбае за тым, каб моладзь нашае вёскі і іншых ваколічных, узгадоўвалася ў духу здаровым маральна і фізычна; апрача гэтага стараецца ўліваць маладому пакаленьню дух патрыятызму, дух любові да ўсяго свайго роднага.

Цяцерскі Гурток інстытуту выканаў вялікае заданьне перад сваім народам, але, ведама, што на гэтым яшчэ не застановіцца і будзе далей інтэнсыўна працаваць.

Дай-жа Божа сілу, адвагу і вытрываласьць.

*Беларускі каляндар "З роднае нівы". Вільня. 1928 г.*
*Матэрыял дасланы Алесем Хайноўскім. Глыбокае*

## Выдавецкія навіны

У мінскім выдавецтве "Беларускі кнігазбор" пабачыў свет зборнік твораў беларускіх пісьменнікаў Латвіі "Крывіцкія руны" (укладальнік Сяргей Панізнік – беларускі паэт родам з Мёршчыны). Большая частка аўтараў зборніка паходзяць з Латгаліі, дзе жыве шмат беларусаў. Самыя вядомыя сярод аўтараў: Эдвард Вайвадзіш, Кастусь Езавітаў, Пятро Сокал, Сяргей Сахараў. Э.Вайвадзіш (1897 – 2000) нарадзіўся побач з Браслаўшчынай – у Прыдруйшчыне (Краслаўскі раён Латвіі). У 1909 годзе пачаў вучыцца ў Друйскай двухкласнай царкоўна прыходскай школе, згадвае пра гэта ў сваіх успамінах. У Браслаўскім музеі зберагаецца зборнік твораў паэта з аўтографам сваякоў. Бываў на Браслаўшчыне і Мікола Талерка, аўтар вершаў і прозы. Месцам напісання аднаго з твораў пазначаны Браслаў. У зборніку М.Талерку прадстаўляюць С.Панізнік і Мікола Паўловіч, адзін з аўтараў "Павета", сябра Браслаўскага краязнаўчага таварыства. Да сучасных паэтаў Латвіі належыць Станіслаў Валодзька. Нарадзіўся ў Беларусі ў 1956 годзе, жыве і працуе ў Даўгаўпілсе. Вершы С.Валодзькі друкавала "Браслаўская звязда", а таксама "Павет". Зборнік, акрамя літаратурных тэкстаў, утрымлівае нарысы пра аўтараў, багатыя на гістарычныя факты аб прысутнасці беларусаў на латвійскай зямлі.

Выданне "Крывіцкія руны" будзе карысна ўсім, хто цікавіцца культурай Беларусі.

Пятро Сакол

### Беларускі сьцяг

Узьвіўся горда, вольна ў неба
Бела-крывава-белы Сьцяг.
Ён чыстаты народнай сьведка
І яго цяжкай долі знак.

Ідзі пад гэты Сьцяг прыгожы,
Каму свой родны дараг кут!
Даволі йсці па бездарожжы –
Трэ скінуць путы злых пакут!

Пад Сьцягам гэтым мы адважна
Пазбавім край ад ланцугоў.
Прайдуць вякі, і нас уважна
Успомніць грамада братоў.

Станіслаў Валодзька

### Позірк Еўфрасінні

З нябёс блакіту
І з нябеснай сіні
Я адчуваю позірк Еўфрасінні,

Што беражэ мяне
Ад злога вока,
Калі ўвесь свет глядзіць, здаецца, воўкам,

Што надае мне
Мужнасці і сілы
Свой крыж нялёгкі несці да магілы.

Дзе рос я,
З тых палёў, лугоў расіны
Слязінамі ў паглядзе Еўфрасінні.

Яшчэ і я,
Як і мая Айчына,
Зірнем на свет вясёлымі вачыма.

Яшчэ надзея ёсць –
Прыйсці да ладу, –
Не адвядзі, Заступніца, пагляду!

Мікола Талерка

## Суседзям

Я бажыўся, біў у грудзі...
Мне ня верацъ, што мы – людзі.
Эт, ня дужа ім да скуса
Братам бачыць беларуса.

Чым жа мы ім прыкарнелі?
Ці мо іхняе што зьелі?
Не! Сусед пайшоў у людзі:
Ён глядзець на нас ня будзе, –

Сорам нас з сабой зраўняці...
Ці мы можам што адняці?
Ён чаму нас так баіцца?
Каб самому не зваліцца!

Для агульнага хаўруса
У Эўропе й беларуса –
Як другіх народаў раці –
Вы павінны нас прызнаці!

Аўгіння Кавалюк

Я еду
ў крыгаход,
Дзе мужны жыве народ,
Няўрымснае племя –
латы.
Я еду туды,
як дахаты.
Прыбалтыка
стала домам.
У Балтыцы
песціцца Нёман.
Быстрою
нашай Дзвіны
Плывуць Беларусі сыны ...
Сягоння
мне не да сну:
Я еду
ў сваю вясну ...

Станіслаў Валодзька

## Ля слыннай ракі

Сплывае сум-туга з вачэй,
Дзяцінства бачыцца ярчэй,
Як гляну: з мілай Беларусі
Рака праз Даўгаўпілс цячэ,

Мяне хвалюючы, праз годы
І праз стагоддзі коціць воды,
Ў якія родны лес глядзіцца
І Віцебск з Полацкам заўсёды...

2

Знайсці прычал свой
Лёс Бог даў мне,
Якая ў тым мая віна?
У той краіне, дзе – Даўгава,
Не ў той краіне, дзе – Дзвіна.

Бягуць мае сыночкі жвава,
І галасочкі іх звіняць
У той краіне, дзе – Даўгава.
І так не часта, дзе – Дзвіна...

...Каб толькі даў Бог чуць, як
слава
Грыміць маёва, –
Не вайна,
І ў той краіне, дзе – Даўгава.
І ў той краіне, дзе – Дзвіна...

Эдвард Вайвадзіш

## Прыдруйшчына

З Табой заўсёды ў згодзе
І мой быў лёс:
Пры ўсякай непагодзе
Цягнулі воз.

Баліць душа і сэрца
За многіх з нас,
Каму у волю перцу
Паддаў калгас,

Калі жыцьця аснову
І сэнс вякоў
Мянялі... Зь імі й мову
Сваіх бацькоў.

Пакутую душэўна:
Боль не забыў...
Хачу спытацца гнеўна:
А гонар быў?

Згубіў ты мову матчыну –
Калыскі сьпеў.
Каму прадаў ты спадчыну,
Што ў сэрцы меў?

Напэўна, пакаленьні,
Што ўжо ідуць,
Падымуць нас з каленяў...
І праклянуць.

Эдвард Вайвадзіш

## Мае крокі па дрогкай зямлі

З часоў прыгону стаялі Вайвады, дзе я і нарадзіўся 23 студзеня (5 лютага па новым стылі) 1897 года. Было тады ў вёсцы 18 хат. Жыло 90 чалавек. Зямля была ў Прыдруйскай валасці Віцебскай губерні, належала Дрысенскаму павету. Сярод тутэйшых – адна-дзьве сям'і латышскія. Пад Індрай – поле жытнёвае калыхалася. На поўнач ад станцыі – быў двор Бульбянова і двор Вайцюлева (Нітаслаўскага). У Бульбянове панскі палац згарэў у Першую сусьветную вайну.

У 1908 годзе пайшоў вучыцца ў 2-ю Прыдруйскую школу. У Вайвадах была народная школа. Згарэла. Да Прыдруйска хадзіць далекавата. Бацька аддаў прыватнаму настаўніку ў памесьце Індрыца. Праз год трапіў у Друю, вучыўся ў двухкласнай царкоўна-прыходскай школе, на чацьвёртым аддзяленьні. Загадчыкам там працаваў настаўнік Галушка. Вучылі нас матэматыцы, расейскай мове, фізіцы, прыродазнаўству, знаёміліся мы са старaславянскай мовай. У Друі на той час было каля чатырох тысяч чалавек: беларусы, палякі, жыды. Для іх – дзьве царквы, езуіцкі касьцёл, сінагога. Людзі рабілі на піваварным заводзе. Жыды гандлявалі. Ім вучні-навабранцы маглі нашкодзіць: круцёлку ў бараду пусьціць. А так гараджане жылі дружна, без сварак. Калі маладыя рознай веры палюбяцца, то сьвятары дзяўчыну ці хлопца ўгаворвалі перайсьці ў другую веру: каб у сям'і лад быў. Ксяндзы з папамі не заядаліся, дружылі...



**Полацк. Помнік самай беларускай літары.** ***Аўтар Ігар Куржалаў***

## *Куток калекцыянера*



У прыватным архіве беларускага паэта Латвіі М.Талеркі калекцыянер і збіральнік, краязнавец Мікола Паўловіч выявіў шэраг паштовак беларускай тэматыкі. У нумары за студзень мы ўжо пісалі пра серыю паштовак з відамі беларускіх гарадоў і мясцовасцей.

Цікавасць уяўляюць яшчэ дзве паштоўкі. На адной з іх адлюстраваны партрэт слыннага беларускага першадрукара Францішка Скарыны. Паштоўка не мае выходзячых дадзеных, ніякіх тэкстаў, невядомы аўтар партрэта. Паходзіць паштоўка з перыяду 20-30-х гадоў і была зроблена фотаспосабам. Другая паштоўка выканана ў гэты ж час друкарскім спосабам. Яна вядома калекцыянерам. На малюнку алегорыя крыжовага пакутніцкага шляху Беларусі. Найбольш адметнае ў паштоўцы – аўтограф Кастуся Езавітава (1893-1946), вядомага дзеяча беларускага нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння, нараджэнца Даўгаўпілса. К.Езавітаў быў адным з кіраўнікоў БНР, узначальваў Вайскова-Дыпламатычную місію БНР у Латвіі і Эстоніі. Дарэчы, К.Езавітаў арганізаваў пераход на службу БНР нашага земляка С.Булак-Балаховіча. Урад рэспублікі прысвоіў Езавітаву званне генерал-маёра.

На паштоўцы рукой К.Езавітава 25 жніўня 1922 г. напісана: **«Не давайце сваёй Маці-Беларусі ў абіду ворагам. Лепей палажыце галаву сваю, але не дапушчайце яе да зьдзеку і (неразборліва). К.Езавітаў»**






**У куце больш ня маю бажніц!**

У куце больш ня маю бажніц –
Мапа там. А на ёй – Беларусь.
Ёй адной я цяперка малюсь,
Перад ёй штодня падаю ніц.

Прад вачыма маімі абшар
Скатаванай, згвалчонай зямлі ...
Незасохшыя лужы крыві ...
Панаваньня чужынцаў цяжар ...

З паўначы на паўдзень, як злы гад,
Працягнулась падзелу мяжа ...
Дрот калючы ... Слупы дзеляжа ...
Штыхі ... Ўціск ... І чужацкі салдат ...

Слёзы й кроў. І малітвы, і стогн!
Катаваньне! Турма! Кайданы!
Зьнішчыць нас захацелі паны!
Горы трупаў насыпаў патрон!

Ды – дарма! –
Ужо ніхто не заб'е беларускай душы!
Ў цяжкіх муках яна акавалась бранёй!
Не зрачомся мы сьветлае Волі сваёй –
На сьвет вольны мы выйдзем з глушы!

*Кастусь Езавітаў*

« ПАВЕТ » DISTRICTUS
ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ



Наклад 299 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.
Выдаецца з ліпеня 2001 г.

Адказны за выпуск: Кастусь Шыдлоўскі
г.Браслаў, вул.Кастрычніка 11-10, тэл. 21-4-28
E-mail: brasmc@vitebsk.by

Над нумарам працавалі: Кастусь Шыдлоўскі, Аляксандр Панцялейка, Валеры Буко

Выдадзена пры дапамозе цэнтра выдавецкіх ініцыятыў «Сумежжа» (Паставы)